Год II | Аўторак, 17 студня 1922 г. | № 10 (19)

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак,
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня, 17 Студня 1922 г.*

Баранавічы, як ведама, з'яўляюцца адным з галоўных цэнтраў па рэвакуацыі ўцекачоў, вертаючых з Саўдэпіі ў заходнюю Беларусь і Польшчу.

Рэвакуацыя пачалася ў Сакавіку 1921 г. і з гэтага часу, праз этапны пункт Баранавічы, прайшло ня меней 350 тысячаў народу. Большасьць уцекачаў — беларусы, сяляне з Горадзеншчыны і Віленшчыны, пасьля 7 гадоў бадзяньня па чужых кутах, пасьля бальшавіцкага зьдзеку і мук на чужыне, варочаючыя ў родную зямельку, ў сваю, кінутую ў часе нямецкай навалы, хату, замест якой найчасьцей знаходзяць адно папелішча...

Яшчэ у часы пераезду па Саўдэпіі да Польскай граніцы уцекачы церпяць нявымоўныя мукі. Галодныя ў нятопленых вагонах, якія перапоўнены людзьмі так, што ня можна навет і павярнуцца, уцекачы ў дарозе хварэюць, заражаючы адзін аднаго, паміраюць сотнямі...

Цэлы месяц, а мо і болей цягнецца іх крыжовая дарога, пакуль змучаныя, чуць жывыя прыезжаюць яны ў Стоўпцы, дзе бальшавікі выкідаюць іх з вагонаў за дэмаркацыйную лінію, выкідаюць разам усіх — і здаровых, і хворых і памершых на мароз і ня гледзячы на тое, што большая частка ня мае цёплага адзеньня.

У адкрытым полі, на ветры і марозе сядзяць уцекачы, чакаючы пакуль іх ня забяруць, сядзяць ня маючы навет цёплай вады, каб хоць троху адагрэцца.

Але пакута іх не канчаецца ў Стоўпцах. Ня лепей і у Баранавічах на этапе. Там уцекачы размешчаюцца ў зімных, сырых бараках у страшэннай цеснаце, а калі не хватае мейсца, дык пад голым небам на абшары ў некалькі дзесяцін, агарожаным калючым дротам.

Што ж дзіўнага, што жывучіе ў такой цеснаце, ў вечным холадзе голадзе, людзі мруць ад заразлівых хвароб, падаюць духам і часта бывае, сходзяць навет з'ума?

Трэба адзначыць, што санітарнай справай на Баранавіческім этапе кіруе польская арганізацыя N. N. K., якая адчыніла бальніцу на 300 чалавек, пастроіла лазні, робіць прышчэпы розных хвароб, дэзынфэкцыю адзеньня і хавае цела памерших.

Але што з гэтага, калі хворых ня сотні, а тысячы; калі ўцекачы, ходзючы ў лазню, заражаюць адзін аднага рознымі хваробамі.

Якая карысьць і з дэзынфэкцыі, калі ў бараках цесната і здаровые лежаць умесьце з хворымі, калі няма мейсца, дзе ня было-бы паразітаў, калі з Расеі прыежаюць усё новые і новые эшалоны, прывозючы за сабою ўсякія заразлівыя хваробы.

Але усе ж, калі гэныя меры не дасягаюць мэты, дык патрэбна іншыя, каб не дапусьціць да вымі раньня такой вялікай масы ня ў чым непавіных людзей.

Трэба чым найхутчэй зьвярнуць увагу на антысанітарны стан цеснату, баракаў. Трэба прылажыць усе стараньня, ўсе налягань ня упарадачыць справу рээміграцыі, якая пастаўлена вяльмі кепска ня толькі ў Баранавічах, але і на іншых этапах.

Напрыклад, „Dziennik Białostocki“ абвесьціў, што ўцякачы ад Баранавіч і ад Роўна едуць па 4 дні і начы ў зімных, брудных вагонах, галодные, без цёплага адзеньня. Па дарозе на кожнай станцыі санітары выносяць з вагонаў скасьцянелыя трупы матак, дзяцей, старыкоў. Прыехаўшыя да Беластоку, чуць жывыя, уцекачы туляюцца па месьце, шукаючы прытулку і справы. Перэважаючая частка уцекачаў мусіць перайсьці яшчэ цераз этап эміграцыйнага ўраду ў казармах маёнтка Траўгуте, гдзе ім прыходзіцца ў самым агідным палажэньні сядзець па некалькі дзесяткаў семьяў у Белым і Чырвоным бараках, або ў нятопленай драўнячай пуні — Чорным бараку. Пад бокам у жыхароў Беластоку гэтыя нешчасныя уміраюць з голаду, мёрзнуць, іх ядуць паразіты. Многія з'іх вярнуцца да сваей вёскі ня могуць, бо там усё папалена.

З'яўляецца пытаньне, за што, за якую віну пакутуюць гэтыя нешчасныя людзі? Царская нагайка выгнала іх з роднай вёскі, бальшавікі семь гадоў пілі іх кроў. Цяпер зьвярнуліся яны у родную старонку і вось якая новая бяда, якая нядоля іх сустрэціла!

Калі не памерла ў сэрцу людзей літасьць, калі ёсьць на сьвеце справедлівасьць, трэба чым найхутчэй даць ратунак ахвярам вайны, ня шкадуючы на гэтую справу сродкаў.

Трэба помніць што кожны дзень прамедленьня, кожная гадзіня будзе пахудшаць, і бяз таго цяжкі лёс уцекачоў.

✦✦✦✦

# ТЭЛЕГРАМЫ.

ГДАНСК 16. I. (А. В). З Клайпэды паведамляюць, што прадстаўнік ад Коўна, а так сама прадстаўнік ад Польшчы і Нямеччыны атрымалі ад Камісара Petisne прапазыцыю, аб заключэньні гандлёвай умовы з Клайпэдай.

ЛЕНДЫН 16. I. (А. В.). „Daily Mail“ паведамляе, што Гугэс атрымаў асабістыя пратэсты проці адбыцья ў Гэнуі канфэрэнцыі, гэты пратэст быў прапанаваны прэзэсам арганізацыі амэрыканскіх работнікаў.

БЭРЛІН 16. I. (А. В.). Атрымана паведамленьне, што партфэль вайсковых спраў Poinbare прапанаваў даць маршалу Фоху.

ЛЬВОЎ 16. I. (А. В.). „Gazeta Woeczorna“ паведамляе, што ў Кіеву пануе халера. Па прычыне адсутнасьці медзіцынскіх сродкаў і процэнт сьмяртэльнасьці вельмі вялікі. Баракі для хворых без усялякага апалу.

ПАРЫЖ 16. I. (А. В.). Доўмэрг, Вібіані і Тард'ё зрабілі адказ прыняць партфэлі. Манург атрымаў партфэль спраў ўнутрэньніх, Ластэўрье скарбу, Магінат вайсковых спраў, Бартаў як праўда-падобна атрымаў партфэль спраў альзаскіх і латарынгскіх.

ЖЭНЕВА 16. I. (А. В.). Ліга Народаў зрабіла адозву да ўсіх гаспадарстваў, у якой заве каб аказаць якую-кольвек помач Расеі, ў якой пашырэньне эпідэмій пагражае цаламу сьвету і ўсей Заходняй Эуропе.

БЭРЛІН 16. I. (А. В.). Да ўраду ёсьць інфармацыя, што да Гэнуі на канфэрэнцыю прадстаўнікамі ад Нямечыны будуць Віртг і Ратэнаў.

ЖЭНЕВА 16. I. (А. В.) Рада Лігі Народаў атрымала Мэморыял Аскеназы ў справе польскай меншасьці ў Латвіі; ведамасьці ў справе інтэрвэнцыі Фінляндыі і аб паўстаньні на Карэліі, Аскеназы, паведаміў, што Польшча павінна трымацца суседзкіх адносін з Саветамі і быць на становішчы нейтральных.

ПАРЫЖ 16. I. (А. В.) Прэса робіць вялікую ўвагу і значаньне спатканьню, якое мае быць паміж Poicare Lloyd Georgesem.

ГДАНСК 16. I. (А. В.) Рада Лігі Народаў сьцвярдзіла генэрала Гацхінга на становішча гданскага камісара.

КАТАВІЦЫ. 16. I. (А. В.) Тэрмін для сканьчэньня ўмовы паміж палякамі і немцамі замест 26 студня адцягнут на 15 лютага г. г. Выезд дэлегацыі да Жэневы назначаны на 6 лютага г. г.

Канец гэтай справы будзе 25 лютага г. г.

ЛЕНДЫН. 16. I. А. В.) „Tempe“ піша, што канец канфэрэнцыі ў Канах азначае тое, што парлямэнт Францыі ёсьць праціўным ангельска-францускай згодзе. Новы прэмьер будзе трымацца тых самых мэт' якіх трымаўся яго прадшэственнік.

✦✦✦✦

## Весткі з Варшавы.

Аўстрыйская дэлегацыя для ведзеньня польске - аўстрыйскай гандлёвай умовы хутка прыедзе да Варшавы.

Пасяджэньня дэлегацый закончацца ў начале лютага, пасьля чаго пачнецца гандлёвая пэртрактацыя з Венгрыей

Дзеля урэлгяулваньня транзыту праз Польшчу ў Румынію мае быць склікана жалезнадарожная канферэнцыя, ў якой, апроч прадстаўнікоў Польшчы і Румыніі прымуць учасьце прадстаўнікі Чэха-Славакіі, Аўстрыі і Венгрыі.

Атрыманы весткі з Масквы, што Сават Народных Камісараў пастанавіў чым найхутчэй прыступіць да гандлёвых перагавораў з Польшчай. Саветы згадзіліся, што мейсцам для перагавораў будзе Варшава.

Адбылося пасяджэньне прамыслова гандлёвай Рады пад кіраўніцтвам міністра Стразбургера. Развязана пытаньне аб дапушчэньні загранічнага капітала да ўчасьця ў акцыйных спулках і аб разрэшэньні спулкам загранічным дзейнасьці ў Польшчы.

✦✦✦✦

## Размова п. Мейштовіча з прадстаўнікамі прэсы.

Як паведамляе Komunikat „Biura Prasoweho“, прэзэс час. Камісыі Урадовай п. Мейштовіч веў размову з прадстаўнікамі француских і румынскіх газэт, у якой зьвярнуў увагу на зьнішчэньне, ў часе вайны, вёсак і двароў. У самым Вільні ёсь 1600 разрушаных дамоў.

